

У нумары: Калгас імя Чырвонай Арміі



Аб чым песня



Мая хата з краю


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 35 (444) | ГОД IX | 30 ЖНІЎНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## УСЁ Ў РУКАХ НАСТАЎНІКА

Мая размова з КУРАТАРАМ ЭДУАРДАМ КРЫНСКІМ была аб справах звязаных са школай і настаўнікамі. **Куратар Крынскі,** сардэчны прыяцель настаўнікаў (Сам шмат гадоў быў вясковым настаўнікам), нястомны прапагатар асветы.

### АБ ЭКСПЕРЫМЕНЦЕ У ШКОЛЕ

Эксперымент — гэта праводжанне вопыту ў справах новых. Каб мог існаваць эксперымент, павінен заіснаваць рад прадпасылак, як: падрыхтоўка настаўнікаў, упэўненасць, што эксперымент выйдзе, патранат вучонага, які б наглядаў эксперымент у школе. Эксперымент можа не ўдацца і тады прыносіцца шкоду дзецям. Так што асцярожна з эксперыментам.

Але ўвогуле мы за эксперыментам, за пошукамі розных дарог, каб як найбольш даць ведаў дзецям. У сілу аб'ектыўных умоў колькасць эксперыментальных школ павінна быць абмежавана. Не можа быць тут масавасці. Справа ў тым, што эксперымент служыць базісам для абагульненняў, для здабыцця вопыту.

**Настаўнікаў мы намаўляем да ініцыятывы. Памагаем шляхам разбуджвання амбіцыі, праз візітацыі, паказванні добрых прыкладаў, добрых настаўнікаў. Апякуемся ахвотнымі, можам даць зніжку гадзін. Прытым эксперыментатары маюць поўную свабоду ў рэалізаванні праграмы. Толькі адна засцярога: колькасць ведаў павінна быць захавана такая, як патрабуецца.**

### АБ ШКОЛАХ ВЯДУЧЫХ

Такіх у нас 65. Я б хацеў, каб усе нашы школы былі вядучымі. Якая розніца паміж школай вядучай і эксперыментальнай? **Вядучая школа — гэта добрая школа, з добрымі вынікамі навучання. Школа можа быць у паасобных пытаннях вядучай: у арганізацыі, у некаторых прадметах — матэматыка, гуманітарныя навукі. Адна вымога тут неабходная — прыгожая школа, чыстая.**

У школе вядучай калектыў настаўнікаў павінен быць найлепшы. Школа такая мае добрае абсталяванне ў навучальныя дапаможнікі. Яна, зразумела, прывілеявана ва ўсім.

—

Але гэта ж прыклад, святло для іншых, прыклад — адна з дарог да лепшага выхавання і навучання. Школа вядучая — гэта ў практыцы выкарыстанне найлепшага вопыту.

### АБ ВЯСКОВЫХ ШКОЛАХ І НАСТАЎНІКАХ

Найбольшае асягненне ў асвеце Дваццацігоддзя мае вясковая школа. Змяніліся ўмовы будаўніцтва вясковых школ. 81% дзяцей канчае пачатковую школу. Рэформа школьніцтва яшчэ больш палепшыць гэтае становішча.

**Праца настаўніка ў школе — гэта найважнейшае яго заданне. Ацэньваючы настаўніка, яго працу ў школе ставім на першым месцы. Але адначасова мы супраць ізаляцыі настаўніка ў асяроддзі. Праца ў школе патрабуе заангажавання ўсеба**

(Працяг на стар. 3)





**Штогод у многіх вёсках дзеці пачынаюць навуку ў навапабудаваных школьных будынках. НА ЗДЫМКУ: новая школа тысячагоддзя ў вёсцы Баратыншчына, Сакольскага павета.**

**У такой школе прыемна і вучыцца. Нічога тады дзіўнага, што дзеці з Баратыншчыны не могуць дачакацца першага званка і з цікавасцю аглядаюць прыгожы школьны будынак.**

**Жадаем ім самых пяцёрак у новым навучальным годзе.**

**Фота Ул. Паўлючук**

# САПРАЎДНЫЯ ГАСПАДАРЫ

Антону Шатыну цяпер ужо 78 год. Нарадзіўся ён тут у Дабрамілі і правёў там цэлае сваё жыццё.

Замест у школу, хадзіў на панскае поле. Трэба было дапамагаць бацьку, зарабляць.

— Я не пісаці, не чытаці, — сцвярджае дзядуля Антон і па старой прывычцы, сустрэўшы незнаёмага яму, «па-панску» у яго ўяўленні апранутага чалавека, ужо здалёк здымае шапку і нізка раскланьваецца:

— Дзень добры, пану!

Калісьці да гэтага «дзень добры» дзядзька Шатын абавязкова дадаваў словы: «ясне вельможнаму пану». Інакш не магло быць. Каб памінуў гэтыя словы, абарваў бы па спіне доўгім панскім бізуном.

Сям'я былога батрака Антона Шатына — жонка і шэсць сыноў — жылі ў батрацкіх будах, схаваных пад лесам за ўзгоркам, каб іх бяда ў вочы не калола гасцям пана Сялецкага, што ў палацы балявалі.

Цяпер няма, на шчасце, ні памешчыка, ні батрацкіх буд, а па абодвух баках старой ліпавай алеі стаяць — адны мураваны, другія з дрэва — новенькія жылыя дамы сённяшніх гаспадароў Дабраміля.

Пад восень 1944 года кожнаму прыпала ад 4-х да 6-ці гектараў. У 1950 годзе дабраміляўцы спалучылі да купы свае, 5 год таму атрыманыя, гаспадаркі і пачалі гаспадарыць супольна. Была гэта адна сярод трох першых спулдзельняў прадукцыйных на Беласточчыне. Лічылася яна адной з лепшых у ваяводстве.

Потым спулдзельня разляцелася. Былыя батракі вярнуліся на свае гаспадаркі. Супольнае дабро расплылося між пальцаў. Самастойна яны гаспадарылі аднак толькі паўтара года. Гэтага часу было дастаткова, каб ацаніць дабрадзействы супольнага гаспадарання. Усе яны былі былымі батракамі. Не адчувалі гэтай магутнай прывязанасці да ўласнай палоскі. Пачынаць аднак нанава супольную гаспадарку прышлося, як кажуць, зноў ад іголкі.

Дзядзька Антон Шатын жыве цяпер у сына Тадэуша. Апрача яго ў сям'і яшчэ тры асобы: сын, яго жонка і ўнук - школьнік.

(Працяг на стар. 5)

## ЯК ЗБІРАЕМ НА ШКОЛЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Ужо можам падаць чытачам вынікі збору на школы Тысячагоддзя за I паўгоддзе 1964 года.

I так: дзяржаўныя працаўнікі — рабочыя і інтэлігенцыя выканалі 56,1% плана; гаспадары — 73,9%; спулдзельчасць — 63,1%; школьная моладзь — 104,9%. Як бачым, вельмі прыемна адзначаюць Народнае Дваццацігоддзе сяляне, якія ідуць упераддзе.

Агулам на план 30,7 мільёна дагэтуль сабралі мы 21,1 мільёна злотых. (вл)

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

* * *

Чалавеку патрэбна не слава,
А людская ўвага і ласка,
І сардэчнае шчырае слова,
І вясёлая добрая казка.

Чалавеку патрэбна ўсмешка
Незнаёмых вачэй і знаёмых,
Каб цяжкая дарога і сцежка
Стала лёгкай на кручах і стромах.

Чалавеку не трэба спагады,
Дабрата чалавеку патрэбна,
Каб імклівыя ўзлёты і спады
На высокія ўзносілі грэбні.

Каб сяброў сустракаў клапатлівых
На дарогах далёка ад дому,
І каб сам быў заўсёды шчаслівы,
Калі шчасце прыносіць другому.



# Пальміра Тальяці

Жалоба нас не пакідае. Нядаўна памёр правадыр французскіх камуністаў Марыс Тарэз. Тры тыдні назад мы праводзілі ў апошнюю дарогу Аляксандра Завадскага. І вось у мінулым тыдні развіталіся мы з Пальміра Тальяці — сакратаром Італьянскай камуністычнай партыі, адным з найбольш папулярных дзеячоў і рэвалюцыянераў нашага часу.

Меў 71 год. Родам быў з Генуі. Рана, ужо на ўступных экзаменах у Турынскі універсітэт, пазнаёміўся з Антоніо Грамшы, які пазней стаў заснавальнікам Італьянскай камуністычнай партыі.

У 1921 годзе, маючы 28 гадоў, пачаў выдаваць афіцыйны орган толькі што арганізаваўшайся партыі — газету «Камуніст». Год пазней быў выбраны членам цэнтральных партыйных улад. У 1924 годзе італьянскі фашызм змусіў яго пакінуць Італію. Але праз год ён зноў на кароткі час прыязджае ў Рым, каб разам з Грамшы арганізаваць III З'езд партыі, а потым зноў вымушаны быў эміграваць на доўгія 18 год.

Цяжкія былі гэта гады для дзеяча, усёй душой зросшагася з народам. Будучы адным з актыўных дзеячоў III Інтэрнацыянала, а ад 1934 года нават членам яго Сакратарыяту, не хацеў сядзець у далёкай ад Італіі Маскве. Знаходзіцца непасрэдна за граніцай сваёй радзімы — у Швейцарыі. Тут ён рэдагуе італьянскі камуністычны часопіс, утрымлівае пастаянную сувязь з камуністычным рухам сваёй краіны.

На пачатку грамадзянскай вайны ў Іспаніі кіраўніцтва Інтэрнацыянала высылае яго ў Мадрыд, у дапамогу ЦК Іспанскай камуністычнай партыі. Там цесна супрацоўнічае са сваім таварышом па партыі Луіджы Лонга, камандуючым інтэрнацыянальных брыгад. Выехаў з Іспаніі даслоўна ў апошні момант.

У найбольш цяжкія гады вайны, да канца 1943 года, пад псеўданімам Марыо Карэнці выступаў па маскоўскім радыё з палымянымі антыфашысцкімі і рэвалюцыйнымі прамовамі.

У 1944 годзе вярнуўся на радзіму, дзе працягваў рэалізаваць ідэю аб'яднання ўсіх антыфашысцкіх і дэмакратычных сіл. Кіраваў палітычнай барацьбой левай апазіцыі, згуртаванай вакол Італьянскай камуністычнай партыі, як і тады, калі быў міністрам і віцэпрэм'ерам ва ўрадзе, так і пазней, пасля 1947 года, калі італьянская рэакцыя, за плячыма якой стаяла Амерыка, арганізавала крыжовы паход супроць камуністаў.

Пальміра Тальяці быў дзеячом, які добра разумеў складанасць нашай эпохі і таму мог згуртаваць вакол сябе мільёны прыхільнікаў.

Ва ўступе да польскага выдання кнігі «Італьянская камуністычная партыя» Пальміра Тальяці пісаў: «У першую чаргу і вышэй усяго ставім вернасць асновам марксізма- ленінізма, але ў разуменні яе не фармальна, як паўтарэнне формул, вывучаных напамяць, а як здольнасць разумець і ацаніць сітуацыю, якая стаіць перад намі, пазнаць вартасць новых рэчаў і падзей, якія ўзнікаюць у свеце».

Пладамі яго дзейнасці былі і 8 млн выбаршчыкаў, якія аддалі свае галасы за Італьянскую камуністычную партыю. Пальміра Тальяці быў правадыром, якога разумеў і любіў народ і шанавалі праціўнікі. Тэарэтычная спадчына Пальміра Тальяці мае каласальнае значэнне для ўсяго сусветнага камуністычнага руху, а асабліва для марксісцка - ленінскіх партый капіталістычных краін. Паказваў ім магчымасць заваёўвання рэальных пазіцый ва ўмовах мірнага суіснавання, ва ўмовах парламентарнай, эканамічнай і грамадскай барацьбы. Ствараючы адзіны фронт барацьбы прагрэсіўных сіл у сваёй краіне, клапаціўся і аб адзінстве сусветнага камуністычнага руху. Перажываў з-за супярэчнасцей, якія ўкраліся ў рады камуністаў па віне кіраўніцтва Кітая. Шмат рабіў, каб зменшыць гэтыя супярэчнасці. Адышоў ад нас у момант, калі камуністычныя партыі разам з Ім прадпрынялі практычныя крокі ў гэтым напрамку .

Памяць аб ім застанецца назаўсёды ў сэрцах працоўных Італіі і ўсяго свету, быў для іх таварышом, правадыром і прыяцелем.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

ВЕСТКІ з БССР

(АД НАШАГА СПЕЦЫЯЛЬНАГА КАРЭСПАНДЭНТА)

# КАЛГАС ІМЯ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

**У гэтым доміку жыве калгаснік Віктар Коласаў са сваёю маці.**

Прабываючы ў Савецкай Беларусі на Віцебшчыне з вялікім зацікаўленнем паехалі мы ў калгас імя Чырвонай Арміі, які распаложаны непадалёк абласнога горада. І вось аўтобус падвозіць нас пад калгасную кантору. Тут сустрэў нас энергічны, высокі і з буйнай шавялюрай чалавек — старшыня сельгасарцелі, Міхаіл Ісакавіч Кац. У канторы, якая мае некалькі пакояў і адну вялікую залу, пазнаёміліся мы з некаторымі спецыялістамі па сельскай гаспадарцы — з аграномам семяняводам (ён сакратар партыйнай арганізацыі) Данілам Снаравым і яго жонкай заатэхнікам Раісай Снаравой. Інжынера па механізацыі, эканаміста і ветэрынарнага лекара ў гэты час не было ў канторы, і таму з усімі спецыялістамі сельскагаспадарчай вытворчасці мы не маглі пазнаёміцца. У шчырай, беспасрэднай гутарцы даведаліся мы, што калгас налічвае 1800 га ворнай зямлі, што ў склад яго ўваходзіць 8 вёсак, а цэнтрам з'яўляецца вёска Ольгава. Раней у гэтых вёсках былі маленькія калгасы. У Ольгаве калгас меў 350 га зямлі.

На тэрыторыі калгаса жыве 1100 чалавек. Ёсць дзве школы васьмігодкі, а ў сельсавеце — сярэдняя школа. У кожнай брыгадзе клуб.

Тут жа радам з канторай ёсць калгасная сталовая, кіно і будуецца вялікі дом культуры. Ён неабходны. Мастацкая самадзейнасць калгаса дабілася высокага мастацкага ўзроўню. Мясцовы хор і аматарскі драмгурток карыстаюцца сярод калгаснікаў вялікай папулярнасцю. У калгас з канцэртамі часта прыязджаюць артысты прафесіяналы.



**Камбайнёр Хведар Вішнякоў скошвае жыта і абмалочвае штодзённа каля 10 га.**

Міхаіл Ісакавіч Кац і супругі Снаравы запрапанавалі нам паехаць па шырокіх калгасных палях, пабачыць ураджаі, пабыць у хатах калгаснікаў. З іх прапановы мы ахвотна скарысталі. Перш за ўсё ў вочы кідаецца на палях вялікая тэхніка, змеханізаванасць работ. Вось мы аглядаем участак бульбы, якая механічна пасаджана. Пры пасадцы працаваў адзін чалавек Алег Мікалаевіч Загрушчэнка. У кароўніках аўтаматычныя паілкі. Мызай карова пацісне і цячэ вада.

Да нашых вушэй далятае рокат камбайна, які косіць і малоціць збожжа. Ураджай нядрэнны, 16—22 цэнтнеры з аднаго гектара зернавых. На пасобных участках 30—35 цэнтнераў.

У калгасе ёсць 10 самаходаў, 13 трактараў, тры камбайны і дзве легкавыя машыны і многа розных сельскагаспадарчых машын.

Калгас спецыялізуецца ў жывёлагадоўлі, птушкагадоўлі і вырошчван-

(Працяг на стар. 4)

СПОРТ

## Прывабнасць спорту

Насуперак апініі шматлікіх скептыкаў, аказваецца, што нашыя спартсмены патрапяць гуляць, калі перад імі вялікая стаўка. Калі яна не вялікая, гуляюць абыякава і, збіты з панталыку, глядач адносіць уражанне, што бачыць спаборніцтвы маладых людзей, якія робяць на стадыёне першыя крокі. А што, як правіла, за білеты трэба плаціць, дык больш нервовы балельшчык скрыгоча зубамі і пратэстуе. Потым наступае вялікае здзіўленне, калі тым самым спартсменам даверăецца сур'ёзная задача. Гульня ідзе тады аб вялікую стаўку. І што дзеецца? Уяўныя непісьменныя аказваюцца раптам вучонымі ў сваёй спецыяльнасці! Здзіўляюць увесь свет. асабліва землякоў, якія лёгкадумна перасталі ім даваць. На тэму футбола сказана шмат горкіх заўваг. Тым часам футбалісты «Заглэмбя» Сасновец зрабілі ў ЗША вялікую кар'еру. Выйгралі з многімі высока цэнянымі ў Еўропе камандамі. У барацьбе за «Кубак Амерыкі» прайгралі толькі раз з Дукляй Прага. А «Заглэмбе» выязджала за «вялікую ваду» без благаславення шматлікіх балельшчыкаў. «Хлапец з Сасноўца» — Ян Кепура — які супраўваджаў футбалістаў «Заглэмбя» ў Злучаных Штатах, сказаў: «Я заваяваў Амерыку сваім голасам, а вы цудоўнай гульнёй».

Капрыслівыя велагоншчыкі бліснулі вялікай формай на дарогах Францыі і Канады. У гонцы навокал Канады, у кампаніі не слабейшай за Велагонку міру, нашыя велагоншчыкі занялі другое месца, а ў індывідуальным заліку наш прадстаўнік Палька таксама быў другі.

Здзіўлены балельшчык адчувае сябе, як дзіця ў краіне чараў. Бездапаможнае дзіцё можа пераўтварыцца за хвіліну ў сапраўднага мужчыну. Таму, калі ў няважных спаборніцтвах любімцы не дабіваюцца вялікіх вынікаў, не трэба рабіць з гэтага трагедыі. У гэтым прывабнасць спорту.

**Л. Тарасевіч**

# ЗА ПРАВІЛЬНАЕ АСВЯТЛЕННЕ ГІСТОРЫІ КАМПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ 5)

Звыш трох месяцаў працягвалася ў 1936 годзе забастоўка рабочых лідскай фабрыкі гумовых вырабаў «Ардаль», якія патрабавалі павышэння заработнай платы і прызнання прафсаюза. У падтрымку справядлівых патрабаванняў бастуючых двойчы аб'яўлялі забастоўку салідарнасці працоўныя Ліды. Вялікае выступленне сялян-рыбакоў у раёне Нарачанскіх азёр ахапіла дзесяткі вёсак. У верасні 1936 года пачалося шматтысячнае выступленне сялян Палесся і Валыні. Побач з эканамічнымі патрабаваннямі сяляне высунулі лозунгі: замена фашысцкага ўрада ўрадам, які будзе карыстацца даверам народа, змена знешняй палітыкі і супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам.

Незадаваленне сялян фашысцкім рэжымам пілсудчыкаў у 1937 годзе вылілася ў магутную сялянскую забастоўку, якая ахапіла ўсю Польшчу. Разам з польскімі сялянамі ўступілі ў барацьбу сяляне Слонімскага, Гродзенскага, Брэсцкага і іншых паветаў Заходняй Беларусі.

У гэты час у Польшчы разгарнулася шырокая кампанія супраць дыктатуры Пілсудскага, за вызваленне палітычных зняволеных, за ліквідацыю канцэнтрацыйнага лагера ў Картуз-Бярозе, дзе мучыліся сотні камуністаў і актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху — беспартыйных рабочых і сялян. Побач з камуністамі ў гэтай кампаніі ўдзельнічалі левыя дзеячы ППС Н. Барліцкі, С. Дзюбуа, А. Струг, А. Прухнік, В. Васілеўская, дзеячы Странніцтва Людовага і вядомыя прадстаўнікі прагрэсіўнай польскай інтэлігенцыі.

Пад націскам шырокіх народных мас урад вымушаны быў у пачатку 1936 года аб'явіць частковую амністыю і датэрмінова вызваліць з турмаў каля 4 тысяч палітычных зняволеных.

КПЗБ разгарнула шырокую кампанію салідарнасці з народам рэспубліканскай Іспаніі, які змагаўся супроць фашызма. У гарадах і вёсках, на прадпрыемствах, у прафсаюзах збіраліся грошы ў дапамогу іспанскаму народу і ў Іспанію адпраўляліся добраахвотнікі для папаўнення шарэгаў рэспубліканскай арміі.

Пад уплывам КПЗБ у Вільні разгарнула шырокую дзейнасць група прагрэсіўнай польскай інтэлігенцыі, на чале з Г. Дэмбінскім і С. Ендрыхоўскім, якая аб'ядноўвала ў сваіх шарэгах антыфашысцкі настроеную польскую моладзь. Гэта група і выдаваныя ёю газеты «Папросту» і «Карта» аказвалі моцнае ўздзеянне не толькі на фармаванне поглядаў польскай інтэлігенцыі ў Заходняй Беларусі, але і на развіццё антыфашысцкага народнага фронта ва ўсёй Польшчы. Яна памагала ўмацоўваць салідарнасць польскай прагрэсіўнай інтэлігенцыі з беларускім нацыянальна - вызваленчым рухам.

Важнае значэнне для развіцця рэвалюцыйнага і нацыянальна - вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі мела творчасць такіх вядомых беларускіх пісьменнікаў, членаў КПЗБ, як М. Танк, Ф. Пестрак, В. Таўлай, М. Васілёк.

І вось у гэтых абставінах несумненных поспехаў па стварэнню адзінага рабочага і антыфашысцкага народнага фронта і агульнага ўздыму рэвалюцыйнага і нацыянальна - вызваленчага руху ў Польшчы, Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі напярэдадні другой сусветнай вайны КПП і яе складовыя часткі — КПЗБ і КПЗУ былі распушчаны і ў 1938 годзе спынілі сваё існаванне. Роспуску папярэднічала рэпрэсіраванне ў 1937 годзе кіруючых работнікаў КПП, КПЗУ і КПЗБ якія знаходзіліся ў Маскве, Кіеве, Мінску і іншых гарадах. У ліку арыштаваных былі такія вядомыя дзеячы КПЗБ, як Р. Д. Вольф, Э. А. Ідэль, І. К. Лагіновіч (П. Корчык), М. С. Майскі, Н. П. Маслоўскі, С. А. Мерценс (Скульскі), А. А. Альшэўскі, А. М. Розенштайн, І. Ф. Семенікаў, А. С. Славінскі, М. Д. Словік. В. З. Харужая, Е. І. Шоламаў, Л. М. Янкоўская і шматлікія іншыя.

Роспуск КПЗБ і рэпрэсіраванне яе кіруючага актыву нанеслі вялікую шкоду рэвалюцыйнаму і нацыянальна-вызваленчаму руху ў Заходняй Беларусі.

Але і пасля роспуску партыі, нягледзячы на велізарныя цяжкасці, камуністы не спынялі барацьбы супраць прыгнёту эксплуататараў, дыктатуры пілсудчыкаў, за інтарэсы народных мас. На прадпрыемствах, у вёсках, у масавых арганізацыях працоўных камуністы працягвалі праводзіць вялікую агітацыйную працу на аснове марксісцка - ленінскай навукі, рыхтавалі народ да рашучай барацьбы супраць надыходзячай пагрозы гітлераўскай агрэсіі, выступалі ў абарону СССР.

У час вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй ў верасні 1939 года тысячы былых членаў КПЗБ, выйшаўшых з турмаў, з падполля, складалі ядро рабочай гвардыі і добраахвотнай сялянскай міліцыі, створаных тады на вызваленай тэрыторыі, памагаючы аднаўляць Савецкую ўладу.

Сваёй рэвалюцыйнай дзейнасцю ва ўмовах панавання буржуазіі і памешчыкаў, жорсткага нацыянальнага прыгнёту КПЗБ набліжала час перамогі ідэй марксізма-ленінізма ў Заходняй Беларусі. «Камуністычная партыя Заходняй Беларусі адыйграла вялікую ролю ў справе аб'яднання беларускіх земляў у адзінай Савецкай сацыялістычнай дзяржаве» — гаварылася ў тэзісах ЦК КПБ к 40-годдзю Кампартыі Беларусі. І ў гэтым яе вялікая гістарычная заслуга.

Сведчаннем папулярнасці КПЗБ сярод працоўных Заходняй Беларусі служыў выбар вялікай колькасці яе кіруючых работнікаў і членаў дэпутатамі ў Народны сход Заходняй Беларусі. Сярод іх былі С. О. Прытыцкі, Ф. С. Пестрак, В. А. Пырко, С. Н. Малько, А. Г. Сяргун, В. З. Царук, Р. І. Сяржант, А. І. Федасюк, Л. Т. Шайкоўскі, Г. І. Шагун і шматлікія іншыя.

У суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны і часовай акупацыі Беларусі нямецка - фашысцкімі захопнікамі былыя члены КПЗБ актыўна ўдзельнічалі ў партызанскім руху. сталі ініцыятарамі стварэння антыфашысцкіх арганізацый. Шматлікія з іх — В. З. Царук, П. А. Жэлезняковіч. Ф. Г. Маркаў, З. Ф. Паплаўскі, В. Е. Самуцін, Г. Д. Смоляр, І. П. Урбановіч, Я. Т. Бонк і іншыя — кіравалі партызанскім рухам і антыфашысцкім падполлем на тэрыторыі Беларусі. В. З. Харужая і С. С. Панкова вялі вялікую партыйную працу ва акупаваным Віцебску.

